# V Усебеларускі народны сход: ці знойдзецца той, хто скажа праўду, як мы жывём і як будзем жыць далей?

№ 47 (4094)

21 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Хотят провести в Минске встречу в формате «нормандской четверки»

Канцлер Германии **Ангела Меркель** и президент Франции **Франсуа Олланд** хотят провести в Минске встречу в формате «нормандской четверки» с президентом России **Владимиром Путиным** и его украинским коллегой **Петром Порошенко.** Об этом сообщила немецкая газета Stuttgarter Zeitung. «Мы прилагаем усилия, чтобы провести в скором времени новую минскую встречу», – заявил изданию источник в правительстве Германии.

В Берлине расчитывают, что встречу лидеров стран «нормандской четверки» следует провести до саммита НАТО в Варшаве 8–9 июля. Это, как отмечается, позволит снять напряженность в отношениях между Западом и Россией.

ПАЗІЦЫЯ



## Калі ўявіць, што воўк у лесе здох

*Зварот да дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу*

Шаноўныя дэлегаты!

У 2010 годзе за тое, каб я стаў дэлегатам Усебеларускага народнага сходу, падпісаліся больш за 20.000 грамадзян Рэспублікі Беларусь. Такога прадстаўніцтва не было ні ў аднаго іншага дэлегата – і тым не менш дэлегатам мяне не зарэгістравалі. Дэлегатамі народнага сходу сталі не тыя, каго выбраў народ, а тыя, каго, шчыра кажучы, прызначыла ўлада.

Не трэба ўтойваць, народ нічога ў нас не вырашае. Вырашаюць за яго. І калі нешта ў нашай краіне трэба перайначыць у першую чаргу, дык менавіта гэта. Вярнуць народу права выбару, без чаго ні з палітычнага, ні з эканамічнана тупіка нам не выйсці.

Права выбару мусіць быць забяспечана неадкладна: на бліжэйшых выбарах у парламент. І тут важкае слова можаце сказаць вы, дэлегаты народнага сходу, калі нехта з вас прапануе ўнесці ў парадак дня пытанне парламенцкіх выбараў.

Парламенцкія выбары, прызначаныя на 11 верасня, трэба адкласці. Іх нельга праводзіць так, як плануе ўлада. А плануе яна не парламенцкія выбары, а – давайце адкрыта скажам – парламенцкія прызначэнні. Як было яно і на мінулых "выбарах", і на пазамінулых, калі ў парламент мэтанакіравана траплялі цалкам залежныя ад улады людзі, якія там нічога не вырашалі.

Сёння час вырашаць. Сітуацыя такая – палітычная, эканамічная. Краіна на мяжы страты незалежнасці. Гэта цвяроза трэба ўсведамляць – і шукаць выйсце.

Крок да яго – дзеяздольны парламент. Дэпутацкі корпус, здольны ўзяць на сябе адказнасць за будучыню Беларусі.

Я не пра тое, што дэмакратычная апазіцыя павінна мець магчымасць абрацца ў парламент. Вядома, павінна. Але найперш у краіне павінны быць створаны такія ўмовы, каб у парламент, а гэта значыць у палітыку, пайшлі разумныя, дасведчаныя, адказныя людзі, якія сёння той жа палітыкі цураюцца. І не таму, што не хочуць ёю займацца, і нават не таму, што баяцца: маўляў, працу, маёмасць адбяруць, пасадзяць. Шмат хто рызыкнуў бы і працай, і маёмасцю, і нават воляй. Але разумеюць: без толку. У парламенце іх не будзе. Туды прызначаць іншых. Тых, хто будзе націскаць кнопкі так, як ім скажуць, і падымаць рукі тады, калі трэба.

Што б я зрабіў, калі ўявіць, што ў нейкім лесе здох нейкі воўк і я стаў дэлегатам народнага сходу? Я скарыстаўся б гэтым, каб прапанаваць адкласці парламенцкія выбары, бо краіна да іх не гатова, склікаць пазачарговую сесію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і ўнесці ў выбарчае заканадаўства змены, якія гарантавалі б правядзенне выбараў свабодных і справядлівых. Гэта рэальны крок да сапраўднага, а не цацачнага парламента, да жыццёва неабходных палітычных і эканамічных рэформаў. Гэта шлях да захавання Беларусі, яе дзяржаўнасці і незалежнасці. Гэта гістарычны шанец – і я на вашым месцы яго не ўпусціў бы.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі,**
**старшыня Рады руху "За дзяржаўнасць і незалежнасць!".**

БЕЗ РЕТУШИ



Сергей НЕРОВНЫЙ

## Маскировка

Бессменная и незаменимая, как и наш лидер, глава Центризбиркома Лидия Ермошина в последнее время много говорит на тему выборов. Говорит в основном правильно. Красиво и убедительно. Кого не тронут слова о том, что в парламенте должны звучать разные точки зрения, а значит, должна присутствовать оппозиция! При этом важным признаком политической культуры общества Л.Ермошина назвала уважение другой точки зрения. Что ж, похвально!

Понимая, что словами делу не помочь, «главный счетовод страны» обещает по-новому формировать избирательные комиссии – «максимально открыто и дискуссионно». Мало того, наблюдателям будет позволено приблизиться к месту подсчета голосов. В ЦИК подумают, насколько ближе. Возможно, на один метр.

После таких рассуждений и обещаний можно ли быть уверенным, что в сентябре избиратели, которые, не исключено, поставят под сомнение официальные результаты голосования, выкушают вкусный борщ с чесночком, а не тюремную баланду? Нет, нельзя. Дело ведь не в постановлениях ЦИК и даже не в Избирательном кодексе. Честные выборы можно было проводить и ранее, и сейчас можно. Безо всяких «изменений и дополнений». Все дело в том, что власть изначально настроена на обман избирателей. А если это так, то никакой Кодекс, будь он трижды суперлиберальным и демократическим, не спасет итоги голосования от фальсификации. Как и любые постановления ЦИК. Вещи, о которых говорит Ермошина, – от лукавого. Говорит она, маскируя конечный замысел власти. А он таков: в «палатке» должны быть только свои, троекратно проверенные и утвержденные кем надо «депутаты».

Зачем тогда вся эта говорильня по телевизору о «честности и прозрачности выборов», готовности идти навстречу некоторым рекомендациям ОБСЕ? А это, господа, спектакль для доверчивой публики, которая присутствует в любом обществе, и попытка пустить «пыль в глаза» части западного сообщества. В мире достаточно игроков, а в стране – «дураков», готовых покупаться на красивые телекартинки и «умные рассуждения» о «прозрачных урнах», «открытости и дискуссионности».

Думаете, в ЦИК не видят абсурдность цифр явки по районам и процентов за «кандидата от власти»? Если не видят, пусть возьмут в ЦИК хотя бы одного независимого математика-логика. Эти цифры вызывают недоумение даже у сторонников власти – 92,1; 92,4; 91,9 и т.д. Эти цифры говорят, что в Беларуси живут не живые люди, а зомби. То есть безмолвные роботы с одной единственной кнопкой. И эту кнопку нажимают «специально отобранные товарищи».

Спектакль разыгрывается в том числе с целью завлечь на «выборы» оппозицию. Спектакль имеет публичный и кулуарный оттенок. Публичный понятен, а в кулуарном звучат «на ушко» заманчивые предложения: мол, «на самом верху принято решение пропустить в «палату» пять человек, в том числе вас». И на дешевую приманку некоторые клюют. Потом получают свои 2–3 процента и залегают на дно до следующих «выборов».

Если спектакль не помогает достичь нужной явки, в ход идет понукание от начальства – довольно действенный метод в белорусских реалиях, и элементарное мошенничество в дни досрочного голосования. Так что «выборы» по-белорусски – это никакое не волеизъявление граждан, а во многих случаях уголовно наказуемое преступление. Даже по имеющимся законам. Но оно осуществляется под «большой крышей». А «крыша» у нас выше закона.

Убедиться в подлоге вместо выборов может любой, кто этого действительно хочет. Достаточно выдвинуться в наблюдатели независимым от власти способом. Но имейте в виду: власть предпримет все усилия, чтобы вас на избирательном участке не было. В крайнем случае, чтобы вы не увидели всей «грязной кухни».

*г.Кричев.*

МІС БЕЛАРУСЬ-2016

## Паліна Барадачова бачыла сон, які прадказаў ёй перамогу

*Тытул прыгажуні краіны заваявала студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.*

Дзяўчына будзе сёлета прадстаўляць краіну на конкурсе «Міс свету», а таксама ўдзельнічаць у розных культурных, дабрачынных акцыях у Беларусі і за яе межамі.

Падчас узнагароджання Паліне надзелі на галаву пераходзячы сімвал конкурсу – карону, выкананую з белага золата і аздобленую паўтысячай фіянітаў і тапазаў, і літаральна абсыпалі прызамі, сярод якіх, дарэчы, і пазадарожнік вытворчасці «БелДжы».

Дарэчы, усе прызы прыгажуня вырашыла аддаць на дабрачыннасць. У тым ліку і дарагое аўто.

*«Выйгранае я ахвярую на дабрачыннасць, у тым ліку аўтамабіль,* – цытуе Паліну belta.by. – *Гэта мае рашэнне, мая мэта ўдзелу ў конкурсе. Калі так атрымалася, я стрымаю свае слова і, хутчэй за ўсё, накірую свае падарункі ў адзін з дзіцячых дамоў».*

Дзяўчына таксама прызналася, што за тыдзень да свайго ўдзелу ў фінале «Міс Беларусь» бачыла сон, які прадказаў ёй перамогу.

*«Нікому пра яго не расказвала, таму што баялася сурокаў»,* – кажа прыгажуня.

Дарэчы, на конкурсе яна выступала пад нумарам адзін.

**Вера ВІР.**




БЛІЦ

## Калі б прадстаўнікам вашай партыі далі слова…

*Як вядома, улады не дапусцілі вылучэння ў якасці дэлегатаў на V Усебеларускі народны сход прадстаўнікоў палітычных партый дэмакратычнага накірунку. І ўсё ж цікава: што б яны гаварылі, калі б апынуліся ў галоўнай зале Палаца Рэспублікі? З такім пытаннем "Народная Воля" звярнулася да лідараў шэрагу дэмакратычных партый.*









**Юрась БЕЛЕНЬКІ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі – БНФ:**

– Калі б мяне вылучылі на так званы Усебеларускі народны сход і далі магчымасць выступіць, я проста адмовіўся б браць удзел у яго рабоце. Гэта сход падабраных людзей, ён, лічу, не прадстаўляе інтарэсы беларускага народа. Які сэнс выступаць перад тымі, хто ўмее толькі казаць "адабрам-с". Вельмі непрыемна, калі асобы, якія лічаць сябе апазіцыянерамі, імкнуцца трапіць на такі сход.

**Сяргей КАЛЯКІН, старшыня Беларускай партыі Справядлівы свет":**

– Не люблю фантастычных сцэнарыяў. Я ведаю, што ва Усебеларускім сходзе возьмуць удзел спецыяльна адабраныя людзі, якія будуць хваліць цяперашні курс улад. Адзінае, калі б была такая магчымасць, я быў бы гатовы выступіць з праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця. Таксама ў маім дакладзе прагучаў бы план сур'ёзных рэформаў. Напрыклад, рэзкае павелічэнне ролі парламента. Менавіта ён прымаў бы бюджэт, і толькі ён мог бы яго карэкціраваць. Натуральна – незалежнасць судоў. І – рэформа выбарчай сістэмы.

Таксама я прапанаваў бы перайсці на прапарцыянальна-мажарытарную сістэму выбараў, якая ўзняла б ролю палітычных партый. Звярніце ўвагу: праграма папярэдняга Усебеларускага сходу правалена, але папярэдні кіраўнік ўрада Міхаіл Мясніковіч перасеў у крэсла старшыні Савета Рэспублікі. Калі б існавала іншая палітычная сістэма, за такога чыноўніка ніколі не прагаласавалі б на наступных парламенцкіх выбарах.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады:**

– На гэты сход я не пайшоў бы. Яшчэ з часоў БДУ, калі я з'яўляўся прарэктарам па навуцы, у мяне аскома ад партыйна-гаспадарчых сходаў. Ніхто там нічога не вырашае. Яшчэ тады мы з калегамі жартавалі, што гэта тое ж самае, што збіраць "сход па бальніцы" і вырашаць, як лячыць аднаго хворага.

**Ірына ВЕШТАРД, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Калі б я апынулася ў галоўнай зале Палаца Рэспублікі, сказала б, што жыццё насельніцтва не паляпшаецца, а, наадварот, пагаршаецца. Што патрэбны справядлівыя выбары, падчас якіх народ выбраў бы новую ўладу, якая змагла б сапраўды палепшыць дабрабыт народа.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ, старшыня Партыі БНФ:**

– У першую чаргу я сказаў бы, што трэба спыніць дзяржаўныя атакі на сапраўдных патрыётаў (такіх як Эдуард Пальчыс – стваральнік сайта-блогу 1863x.com), на тых, хто працуе на сапраўднае Адраджэнне. Таксама я заклікаў бы беларусаў кансалідавацца на грунце сапраўдных нацыянальных каштоўнасцяў. Тады мы зможам пераадолець выклікі, якія стаяць перад нашым грамадствам.

**Апытваў Вадзім БРОННІКАЎ.**

ГАЗЕТА–ЧЫТАЧЫ

## Усяго 7 дзён

**застаецца да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на другую палову 2016 года. Не здрадзім, шаноўныя сябры!**

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**




Другая палова 2016 года будзе насычана важнейшымі грамадска-палітычнымі падзеямі. Чытаючы "Народную Волю", Вы зможаце атрымліваць праўдзівую, незаангажаваную інфармацыю па самых розных аспектах нашага жыцця.

Калі Вы раней падпісаліся і ў Вас ёсць магчымасць аформіць падпіску на "Народную Волю" некаму іншаму – калі ласка, зрабіце гэта.

Вас чакаюць на пошце і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".

ПАРАЎНАЕМ!

# Высокія начальнікі жывуць больш за звычайных людзей



Ірына АБЕЛЬСКАЯ,
галоўны ўрач Рэспубліканскага клінічнага медцэнтра Кіраўніцтва спраў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь:

*– Паводле дадзеных за апошнія пяць гадоў, працягласць жыцця пацыентаў лечкамісіі вагаецца ад 82,5 да 84 гадоў. Гэта не надуманыя, а абсалютна рэальныя лічбы*

**(З інтэрв'ю TUT.BY).**

У ТОЙ ЖА ЧАС

*Сярэдняя працягласць жыцця беларусаў складае 69,9 года.*

**(Паводле дадзеных ААН, “United Nations Development Programme. Life Expectancy Index 2014”).**



МІНІ-КАМЕНТАРЫЙ

Як бачым, тыя, хто ўваходзіць у кантынгент так званай лечкамісіі, а гэта вышэйшыя чыноўнікі вертыкалі і асобы, што маюць пэўныя заслугі, жывуць у сярэднім на 12,6–14,1 года болей, чым звычайныя людзі. У той жа час спадарыня Абельская пераконвае грамадскасць у тым, што яе пацыенты страшэнна стамляюцца ад работы. Калі так, то ў чым жа сакрэт іх даўгалецця? З інтэрв’ю І.Абельскай выцякае такая выснова: гэтаму ў многім спрыяе тое, што за станам здароўя кадраў вышэйшага эшалона ўлады пільна сочаць урачы Рэспубліканскага клінічнага медцэнтра Кіраўніцтва спраў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Скажыце, калі ласка: а што, шараговыя людзі не працуюць, не стамляюцца? Паспрабуй замест таго ж шахцёра правесці ў забоі рабочую змену! Не намнога лягчэй і даярцы, якой пры трохразовым даенні кароў даводзіцца кожны дзень падымацца на золку і звычайна пешшу дабірацца на ферму. Ды што і казаць, праца ёсць праца, калі сумленна да яе ставіцца, то ўсюды трэба ўпірацца. Прычына заўчаснага сыходу з жыцця простых людзей звязана як з іх шматгадовай цяжкай працай, так і з тым, што мізэрныя заробкі не дазваляюць ім нармальна зладзіць жыццё. А па-другое, яны не забяспечаны такім якасным медыцынскім абслугоўваннем, як тыя ж высокапастаўленыя начальнікі. Не, несправядліва Бог дзеліць: яны, чыноўнікі, знаходзяцца на лячэнні ў шыкоўных умовах, а простыя людзі звычайна ляжаць у палатах па 5–6 чалавек, а то і ў калідорах. Таму, спадарыня Абельская, не новую бальніцу за 100 мільёнаў долараў трэба будаваць для лукашэнкаўскай наменклатуры пад Мінскам *(гл. здымак)*, а рэальна дбаць пра павышэнне дабрабыту ўсяго народа.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Сяргей РУТЭНКА: «Ляжаць на канапе – не па мне»



*Вядомы гандбаліст, капітан зборнай Беларусі Сяргей Рутэнка распавёў “Народнай Волі” пра будучыя планы і тое, як збіраецца праводзіць адпачынак.*

Зборная Беларусі выйграла ў кваліфікацыйным супрацьстаянні з камандай Латвіі запаветную пуцёўку ў фінальную частку чэмпіянату свету, і частка заслугі ў гэтым, безумоўна, Сяргея Рутэнкі – аднаго з найлепшых гандбалістаў у свеце. Задача выканана, а зараз, што называецца, можна і расслабіцца…

– Зараз адпачынак, таму хочацца з карысцю для сябе і для сям’і правесці час, – кажа Сяргей.

**– Любіце актыўны адпачынак ці лепш пагрэць бакі на пяску дзе-небудзь на моры?**

– Я стараюся не сядзець на месцы. Зараз вось на машыне з’езджу ў Славенію, трэба сяброў наведаць. (*Варта сказаць, што Сяргею Рутэнку ў свой час далі славенскае грамадзянства, і ён выступаў за зборную гэтай краіны. –* **Аўт.**) Пасля вярнуся і займуся сваёй любімай справай – куды-небудзь на прыроду паедзем, на рыбалку… Ляжаць на канапе – не па мне.

**– Можа, плануеце наведацца ў Францыю, каб паглядзець футбол на Еўра-2016?**

– Дзякуй вам, але мне хапае і гандбола. Падчас адпачынку наогул хочацца пабыць далей ад спорту.

**– Але нейкія матчы глядзіце?**

– Калі жылі ў гасцініцы падчас кваліфікацыі, то сачыў за асобнымі гульнямі – трэба ж было нейкім чынам бавіць час. Але, скажам так, я не футбольны фанат.

**– Што далей са спартыўнай кар’ерай? Ужо вызначыліся?**

– Па праўдзе кажучы, перспектывы вельмі туманныя. Ёсць некаторыя прапановы, трэба думаць… Не выключана, што наогул закончу гуляць у гандбол.

**– Чым тады плануеце заняцца?**

– Не хачу пакуль раскрываць усе планы. А ўвогуле, калі ў мяне пытаюцца: “Куды ты хочаш?» – я адказваю прыкладна так: «Хачу туды, дзе няма працы і кожны дзень зарплата”. А калі сур’ёзна, дык час пакажа, які варыянт стане для мяне найбольш прымальным.

**Алесь СІВЫ.**

СІТУАЦЫЯ

## МІКАЛАЙ КАЗЕКА: «Я быў абсалютна спакойны…»

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па фрыстайле Мікалай Казека распавёў “Народнай Волі”, як яго кватэру вызвалялі з-пад арышту.*

Нагадаем, што ў рамках расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да бізнесмена Юрыя Чыжа і ягонай кампаніі «Трайпл» былі арыштаваны актывы фірмы. Адзін з актываў – знакаміты «Дом Чыжа» каля Траецкага прадмесця. У ім засталіся непрададзенымі 27 кватэр, якія былі ў закладзе ў беларускіх банкаў. Нерухомасць дазваляла Чыжу атрымліваць крэдыты.

Доўгі час жыллё ў «Доме Чыжа» прадавалася па 3000 долараў за квадратны метр, але для Мікалая Казекі было зроблена выключэнне. Чыж пагадзіўся прадаць яму кватэру ў растэрміноўку па значна меншай цане. Трэнер павінен быў канчаткова выплаціць грошы да сярэдзіны 2018 года. Да таго часу праваўласнікам заставаўся «Трайпл». І кватэра Мікалая Казекі патрапіла пад арышт.

– Я напісаў следчаму заяву з просьбай зняць арышт з кватэры, бо проста стаў закладнікам сітуацыі, – распавёў Мікалай Іванавіч “Народнай Волі”. – Пытанне вырашылася станоўча. І дзякуй Богу, бо ўжо 25 чэрвеня мы разам з камандай едзем на трэніровачны збор у Швейцарыю. Не хапала, каб у мяне яшчэ галава была забіта іншымі думкамі.

**– Былі апасенні з нагоды той сітуацыі, што склалася?**

– Не, я быў абсалютна спакойны. Нават шуму не ўзнімаў, а гэта ўжо самі журналісты падалі гісторыю ў СМІ.

**– Кажуць, што толькі ваша кватэра выведзена з-пад арышту, а астатнія пакуль яшчэ не…**

– Я вам шчыра скажу: не ведаю. І нават не цікаўлюся гэтым. Ды і з рознымі кватэрамі – розныя сітуацыі. Можа быць, у каго-небудзь не пераафармлена жыллё… Ды і гэта кватэра яшчэ не перайшла ў маю ўласнасць, пакуль я не выплаціў усе грошы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЕЎРА-2016

## У крузе трэцім…

*На чэмпіянаце Еўропы па футболе, які праходзіць у Францыі, балельшчыкаў чакаюць на гэтым тыдні матчы трэцяга тура групавога этапа.*

На Еўра-2016 згуляны ўжо больш за два туры, і многія спецыялісты адзначаюць: гэтае першынство, якое праводзіцца па новай формуле (колькасць зборных павялічана з 16 да 24 каманд), стала менш відовішчным. Напрыклад, пасля двух тураў (24 згуляныя матчы) было забіта ўсяго 39 галоў. Для параўнання: на Еўра-2012 у першых двух турах групавога турніру (удзельнічалі 16 каманд) было забіта 46 галоў.

Зрэшты, мы прымаем тое, што ёсць, і ўжо быў час вызначыцца са сваімі сімпатыямі да якой-небудзь зборнай. І нават не да цэлай каманды, а проста да ігракоў, майстэрствам і мужнасцю якіх можна захапляцца. На кожным чэмпіянаце ёсць героі.

Футбаліст зборнай Уэльса **Гарэт Бэйл**, напрыклад, сваім бездакорным выкананнем штрафных (два галы ў першых двух матчах першынства) настолькі ўлюбіў у сябе аматараў футбола, што ва Уэльсе на адзін дзень у гонар іграка перайменавалі цэлы горад Бала з усімі неабходнымі фармальнасцямі – новымі таблічкамі і ўказальнікамі.

А харвацкі футбаліст **Ведран Чарлуку**? Я здымаю капялюш перад яго мужнасцю! У матчы з туркамі ў сутычцы Чарлуку атрымаў удар па галаве, і ўрачы некалькі хвілін не маглі спыніць крывацёк. Але ігрок вярнуўся ў гульню. І, нягледзячы на тое, што рана адкрывалася яшчэ тры разы, правёў матч да канца. А ў гульні з чэхамі яму зноў давялося бінтаваць галаву, але гэта не перашкодзіла харвацкаму абаронцу выйграць шэсць адзінаборстваў!

Таксама атрымала сваю порцыю кампліментаў і зборная Ісландыі, якая сенсацыйна згуляла ўнічыю з камандай Партугаліі. А пра ісландскіх фанатаў наогул асобная размова, бо падтрымаць каманду на Еўра прыехала 30 тысяч чалавек – гэта больш за 8 працэнтаў насельніцтва.

Шкада, што пасля двух паражэнняў згубіла шанцы на плэй-оф зборная Украіны, якая ў першай гульні з камандай Германіі выглядала даволі прыстойна. На жаль, украінцы як след не падрыхтаваліся да гэтага першынства, а таму ў хуткім часе мы, напэўна, зможам убачыць на пасадзе галоўнага трэнера ўкраінскай зборнай новага галоўнага трэнера – мяркуецца, што Міхаіла Фаменку зменіць у мінулым легендарны ігрок Андрэй Шаўчэнка, які не так даўно і сам яшчэ выступаў за нацыянальную каманду.

Тым часам Еўра-2016 працягваецца, хаця заўсёды будуць тыя, хто прайграў. Хутка пачнуцца матчы плэй-оф. Як кажуць: Балівар не вынесе дваіх…

ДАРЭЧЫ

### Вынікі матчаў з 16 па 18 чэрвеня

**16 чэрвеня**
Англія–Уэльс – 2:1
Германія–Польшча – 0:0
Украіна – Паўночная Ірландыя – 0:2.

**17 чэрвеня**
Іспанія–Турцыя – 3:0
Італія–Швецыя – 1:0
Чэхія–Харватыя – 2:2.

**18 чэрвеня**
Бельгія–Ірландыя – 3:0
Ісландыя–Венгрыя – 1:1
Партугалія–Аўстрыя – 0:0.

**19 чэрвеня**
Румынія–Албанія – 0:1
Францыя–Швейцарыя – 0:0.

**P.S.** *Учора, 20 чэрвеня, позна ўвечары (пачатак матчаў у 22.00) гулялі зборныя Славакіі і Англіі, Расіі і Уэльса, але графік выхаду газеты не дазволіў даць вынікі сустрэч у нумар. Сачыце за навінамі на сайце:* ***nv-online.info.***

ФУТБОЛ

## БАТЭ – нязменны лідар

*У мінулую нядзелю адбылося некалькі матчаў 13-га тура чэмпіянату краіны па футболе ў вышэйшай лізе.*

Варта адзначыць, што дэбютант лігі – мінскія “Крумкачы” – пасля разгрому аб БАТЭ (0:5) прыйшлі ў сябе і атрымалі перамогу, а барысаўская каманда вырвала валявую перамогу.

Усе вынікі: “Нафтан” (Наваполацк) – “Мінск” – 1:1, “Крумкачы” – “Вицебск” – 1:0, “Слуцк” – “Белшына” (Бабруйск) – 2:1, “Граніт” (Мікашэвічы) – “Дынама” (Брэст) – 2:1, “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзина) – БАТЭ (Барысаў) – 1:2.

**Турнірнае становішча**

| Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. БАТЭ | 12 | 9 | 1 | 2 | 33–14 | 28 |
| 2. Дынама (Мн) | 12 | 6 | 5 | 1 | 19–12 | 23 |
| 3. Мінск | 13 | 6 | 3 | 4 | 19–16 | 21 |
| 4. Крумкачы | 13 | 6 | 3 | 4 | 14–15 | 21 |
| 5. Шахцёр | 12 | 6 | 2 | 4 | 14–9 | 20 |
| 6. Тарпеда-БелАЗ | 13 | 5 | 5 | 3 | 18–13 | 20 |
| 7. Граніт | 13 | 4 | 7 | 2 | 14–14 | 19 |
| 8. Славія | 12 | 5 | 3 | 4 | 15–15 | 18 |
| 9. Іслач | 11 | 5 | 2 | 4 | 14–12 | 17 |
| 10. Віцебск | 13 | 5 | 1 | 7 | 13–11 | 16 |
| 11. Гарадзея | 12 | 4 | 3 | 5 | 9–11 | 15 |
| 12. Дынама (Бр) | 13 | 4 | 3 | 6 | 18–26 | 15 |
| 13. Слуцк | 13 | 3 | 3 | 7 | 11–20 | 12 |
| 14. Белшына | 13 | 2 | 5 | 6 | 18–24 | 11 |
| 15. Нафтан | 13 | 2 | 5 | 6 | 10–17 | 11 |
| 16. Нёман | 13 | 2 | 5 | 6 | 10–17 | 11 |

АЎТАРЫТЭТНА

## Дзмітрый ГЕРЧЫКАЎ: «Ніводная гульня не вартая таго, каб рызыкаваць чалавечым жыццём»

*Каго лічыць фаварытамі чэмпіянату Еўропы-2016 года? Ці мела б шанцы на гэтым спаборніцтве зборная Беларусі? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае каментатар тэлеканала «Беларусь-5» Дзмітрый Герчыкаў, які вядзе трансляцыі на роднай мове.*

**– Мінула ўжо паўтара тыдня з пачатку чэмпіянату. Якія вашы ўражанні ад Еўра?**

– Вельмі прыемна, што калектывы, на якія ніхто не рабіў стаўкі, паспяхова змагаюцца з топ-зборнымі. Былыя аўтсайдары нібыта кажуць скептыкам: “Усе вашы прагнозы нічога не вартыя”. Ісландыя, Албанія, Польшча дэманструюць футбол высокай якасці, хоць і гуляюць ад абароны. Надзвычай цікава назіраць за зборнымі, якія ўпершыню трапілі на Еўра.

У зборнай Ісландыі мы бачым 37-гадовага Эйдура Гудзьёнсэна, які ўпершыню трапіў на топ-турнір. І цяпер спыняе зорную зборную Партугаліі з зорным Крышціанам Раналду, які каштуе болей, чым усе ісландскія футбалісты разам.

**– Атрымліваецца, рэформы Мішэля Плаціні, які павялічыў колькасць каманд на чэмпіянаце з 16 да 24, спрацавалі?**

– Гульня ўчарашніх аўтсайдараў – адказ Плаціні ўсім скептыкам і ўсім незадаволеным. Людзі скокнулі вышэй за свае магчымасці і дэманструюць цудоўны футбол. У футбольнай Еўропе сфарміравалася новая ментальнасць. Для мяне гэта галоўны вынік гэтага чэмпіянату.

**– Калі б на чэмпіянат трапіла зборная Беларусі, ці магла б яна нешта там “злавіць”? Хоць з такой гульнёй…**

– Мне здаецца, на першым плане не гульня, а ментальнасць. Яшчэ пяць гадоў таму зборная Албаніі займала ў адборачных групах месцы ў самым нізе табліцы. Усе зборныя прыязджалі ў Тырану, каб атрымаць свае законныя тры ачкі за перамогу. Цяпер яна гуляе на чэмпіянаце Еўропы. З той жа зборнай Украіны, калі ў яе складзе быў славуты Андрэй Шаўчэнка, мы змагаліся на роўных. Яна выйшла на Еўра, мы – не.

Трэба, каб была ўстаноўка на тое, што наша каманда сваёй дысцыплінай, фізічнай падрыхтоўкай, упартасцю, але самае галоўнае – ментальнасцю можа і будзе змагацца за тое, каб патрапіць на топ-турнір. Нікога не цікавяць апраўданні кшталту таго, што мы гуляем у Беларусі, дзе няма нападаючых, мала гульнявой практыкі і гэтай далей. Калі змяніць ментальнасць – шанец у беларусаў будзе.

**– Вернемся да падзей чэмпіянату. Каго вы ўжо можаце назваць фаварытамі Еўра?**

– Рабіць прагнозы складана. Мне вельмі спадабалася гульня зборнай Італіі (асабліва калі меркаваць па яе матчы супраць Бельгіі). Вельмі цікава назіраць за зборнай Іспаніі: ці хопіць у яе моцы і фізічных кандыцый, каб выйсці пераможцамі. Яшчэ хацелася б назваць фаварытам Германію, але да яе гульні пакуль больш пытанняў, чым адказаў.

**– На жаль, чэмпіянат Еўропы 2016 года шмат у каго будзе асацыіравацца з бойкамі паміж фанатамі…**

– Мне вельмі крыўдна, што гэтая частка гульні выходзіць на першы план, што на яе звяртаюць увагу. Ніводная гульня не вартая таго, каб рызыкаваць чалавечым жыццём. На гэтую трагедыю трэба рэагаваць усёй Еўропай, усім светам. Бо, калі пакідаць усё на сумленні паліцыі Францыі або паліцыі Еўрапейскага Саюза, мы не вырашым гэтую праблему. Праз два-тры гады гэтая хвароба яшчэ больш распаўсюдзіцца.

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**



Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info




У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 20.06.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 28 050 экз. Заказ № 2295